# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 30 (1785) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 29 ЛІПЕНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.



# КУПАЛЯЛЁ...

— Ідзем, Бажэнка, па кветачкі, вяночкі віць будзем...

— Я не хачу...!

— Гэта ж Купалле! Гэта ж абавязкова — вяночкі плесці! — кажа Ала.

— Я ўжо раз пляла і пусціла.

— І што?

— А колькі ж разоў можна...?

... *Ой пойдзем, сястрыцы, пад ясну зарыцу, ночка мала купальная... Набярэм, сястрыцы, жоўтага пясочку, іграй, сонца, із зарою!*

Позні ліпнёвы вечар, 6 числа, парк Румлёўскі ў Гродне. На калдобістым узгорачку, парослым дрэвамі, карчамі і зеллем, пад абрывістым берагам якога заціх Нёман, сабралася моладзь на Купалле. Рыхтуюцца, падспеўваюць. Чуваць мова беларуская. Мы (нас чацвёра з БАСа) ледзь дабрылі сюды ад гарадскога аўтобуса — ішлі „на нюх", пасля на гоман. Праўда, трэба было і запытацца, але мужчына, у якога мы пыталі дарогу, калі пачуў нашу беларускую мову, адказаў па-польску...! Сам ён не ведаў, што метраў сто ад яго будуць спраўляць сонечнае свята. Пэўна, з рэкламай у Гародні было не вельмі...

... Спяваюць дзяўчаты:

... *Гарошку не ўзысці, мне ў таткі не быці, ночка мала купальная...*

Нарыхтавана вогнішча, з колам уверсе. Паходнеўскія дзяўчаты ў нацыянальнай вопратцы. Віктар Шалкевіч бегае, даглядае; дзе ж яго няма? Пад дрэвам стаіць сур'ёзны Віктар Сухі, заглыблены ў свае думкі.

— Віця, што ты думаеш аб тым, што будзе?

— Агульна ці наконт свята? Што мы хочам? Лепшага жыцця. А што значыць „лепшага"?

— Еўропы. Нармальнасці беларускай.

— Еўрооопы! Тут апатыя такая. Паслухай, усё гавораць: „Сталін, Сталін". Гэта праўда. Але Сталін быў і ў нас, і ў Расеі, і ў літоўцаў, але ці можна нас усіх параўняць! Тут справа не ў Сталіне... Вось, паглядзі, у мяне на заводзе: ніхто ні аб чым думаць не хоча. Нічога ім не трэба! Як іх заагітаваць? Я спачатку думаў: зразумеюць, але і зразумець не хочуць... Вось я ў вас у Польшчы быў. Вы не разумейце, што я вас расхвальваю, але ў вас інакш на Беласточчыне, і ў амерыканцаў іншае паняцце. Як іх пераканаць? Песняй гэтай? Для многіх тое, што мы робім, нейкай абразай лічыцца. Я спачатку думаў: вось, прыдзем разам, усё зробім, але тут нічога не атрымліваецца. Кругом сцяна глухая.

— Можа, „народ" яшчэ не даспеў?

— Я вось такое наглядаў, гледзячы на балет. Калі паехаў наш мінскі тэатр оперы і балету за граніцу, і маскоўскі тэатр выступаў там таксама. Мінскі тэатр выклікаў фурор. Але саюзная прэса нічога аб гэтым не пісала, толькі пра тое, што Вялікі тэатр выступаў, а пра наш ні слоўца. Якім чынам усё гэта разварушыць? Зачапіць дурную пыхлівасць і ўпартасць?

— Зачапіць, нават абразіць, укусіць, рану пасыпаць соллю, нават давесці да шоку, каб нешта абарвалася ў людзей. Ці беларусы заўсёды будуць лічыць сябе горшымі ад „вялікіх братоў"?

— Я не разумею людзей, што застаюцца жыць у небяспечных паслячарнобыльскіх зонах. Чаму яны тут дзяцей сваіх трымаюць?! Гавораць, што няма куды ім падзецца. А што, лепшае выйсце — чакаць смерці? Я гляджу на сваіх бацькоў і што бачу? Неразуменне і ўпартасць. Бессэнсоўная ўпартасць, якой у

(Працяг на стар. 4)

МОЛАДА, СУЧАСНА, ПА-БЕЛАРУСКУ

## праграміст які спявае сам сабою

Хоць біяграфіі беларускіх зорак рока і бардаўскае песні, друкаваныя ў „Ніве", паспелі ўжо ўліцца ў першую беларускую рок-энцыклапедыю (пра гэта наша газета пісала ў сёлетнім 19-м нумары), але гісторыя беларускай папулярнай музыкі гэтым не канчаецца.

Бадай, не памыліліся ў тых, пра каго пісалі напярэдадні („Уліс", „Мроя", „Бонда" і г.д.). Сёння беларуская моладзь Беласточчыны ведае іх асабіста, з многімі пазнаёмілася на „БАСовішчы — 90". Але пра барда Зміцера Сідаровіча вельмі моцная пагалоска, відаць, яшчэ не дайшла, хоць у мінулагоднім студзеньскім № 2 „Нівы" ў рубрыцы „З друку" мы змяшчалі фрагмент артыкула з мінскага часопіса „СББ", дзе акурат Зміцер Сідаровіч гаворыць пра тое, што найбольш паўплывала на ягоную нацыянальную свядомасць, на ягоную творчасць газета „Ніва", наяўнасць свядомых беларусаў за межамі Беларусі. Нядзіўна таму, што адна з першых песень на роднай мове была прысвечана і Беласточчыне:

Які ж я беларус, скажыце мне, панове,
Калі я гавару ўвесь час на рускай мове.
Хаджу я, вочы ўніз, баючыся зблыліцца:
Мой рускамоўны Мінск, якая ж ты сталіца?
Выходзіць, што Саюз беларусоў не мае —
Сапраўдны беларус у Польшчы пражывае.
Паночку-беларус, цябе не бачыць вока,
Вяртайся ўжо ў Саюз з раёнаў Беластока.

Але гэтая песня — не пачатак творчасці маладога барда. Пачатак быў гадоў з дзесяць таму, калі Зміцер яшчэ вучыўся ў Беларускім палітэхнічным інстытуце. Былі першыя спробы асвоіць гітарныя акорды, спалучыць іх з паэзіяй, але не было свядомасці, не было повязі з радзімай. Такімі нас усіх выхавала школа, партыя, сацыялізм.

Пералом зрабіла „Талака", куды Зміцер Сідаровіч увайшоў у лютым 1987 года і якая ўвяла

(Працяг на стар. 3)




— 9 —

# АБ'ЯДНАНАЯ ГЕРМАНІЯ

Як вядома, адзінай краінай у свеце, якая стараецца ставіць пэўныя перашкоды ідэі ўзнікнення вялікай нямецкай арміі і прыналежнасці аб'яднанай Германіі да мілітарнага блоку, з'яўляецца сёння Савецкі Саюз. Усе іншыя краіны, у тым ліку і непасрэдныя суседзі Германіі, не прыдаюць гэтаму большага значэння. Можа, я памыляюся, але Савецкаму Саюзу, мабыць, не хопіць на даўжэйшы час сілы, каб бараніць свой пункт гледжання. Вялікія ўнутраныя клопаты, пустая дзяржаўная каса, дрэнны стан прамысловасці, фатальная сельская гаспадарка, напружаныя да межаў магчымага нацыянальныя канфлікты не з'ўляюцца атутам у барацьбе за трыумф сваіх ідэй і намераў на міжнароднай арэне. Здаецца мне, што СССР уступіць. Тым болей, што Германія мае ў руках моцную карту — амаль што неабмежаваныя магчымасці ў грашах. А хто мае грошы, той мае і рацыю. Калі не памогуць палітычныя і маральныя аргументы, памогуць валютныя. Зразумела, Савецкі Саюз для захавання гонару пазмагаецца, пазмагаецца, але ўсё ж уступіць. Лепш уступіць і ўзяць грошы, чым не ўступіць і не атрымаць нічога. Грамадскасці абедзвюх Германій ужо справу вырашылі. Пастанавілі аб'яднацца і падтрымаць усё тое, што Заходняя Германія запрапануе. Найменшыя клопаты будуць з падтрымкай ідэі вялікай арміі. Ці ж народ з такімі вайсковымі традыцыямі і з такой ваеннай славай не падтрымае ідэі стварэння найбольшай нямецкай арміі ў цэнтральнай і заходняй Еўропе? Ці ж у гэтай ідэі не рэалізуецца адвечная нямецкая натура, адвечны нямецкі характар? Ці ж на глебе гэтай ідэі не будуць рэалізавацца ў будучыні больш смелыя і экстрэмальныя нямецкія ваенныя мроі? Падтрымаюць. А ці ж Савецкі Саюз можа сёння зрабіць нешта іншае па-за слоўнымі патрабаваннямі? Не пачне ж ён вайну за сваю ідэю! І дзякаваць Богу, што не пачне. Няма іншага выхаду: трэба пагадзіцца з воляй вялікай і найбагацейшай у Еўропе нямецкай нацыі. Яе сённяшні лёс залежыць амаль выключна ад яе волі. Зусім магчыма, і ў гэтым не бачу нічога добрага, што ад нямецкай волі будзе заўтра залежаць лёс іншых народаў.

І што нам, усім еўрапейскім народам, застаецца? Застаецца нам роля гледачоў, якія пакліканы ў велізарны тэатр, на сцэне якога пры такіх статыстах, як ЗША, Англія, Францыя, Савецкі Саюз і Польшча, будзе праводзіцца велічны акт нараджэння аб'яднанай Германії. Цікава, як сябе назаве гэтая вялікая краіна? Проста Германія? Ці можа будзе дададзены да гэтага яшчэ нейкі назоўнік і прыметнік? Паглядзім. Зрэшты, гэта ў ніякай ступені не зменіць справы. Узнікне другая па колькасці жыхароў і першая па эканамічнай магутнасці дзяржава Еўропы. І трэба будзе ўсім народам зацугліць свае нацыянальныя годнасці і гордасці, зняць шапкі і таўчыся перад парогам вялікай Германіі з надзеяй, што развяжа яна свой фінансавы мяшок і кіне нам адну-дзве жменькі валюты. Так, горкія гэта словы, і многія абурацца, але факт застанецца фактам. І тыя абураныя таксама стануць пакорліва ў чарзе, чакаючы нямецкіх падарункаў у форме капіталаўкладанняў, тэхналогіі, арганізацыі працы, рэцэптаў на ўменне працаваць, гандляваць, жыць. Ну і як тут не захапіцца, не сказаць добрае слова ў адрас вялікага народа, які прайграў вайну, але выйграў мір. І тады, калі асабліва пераможныя ўсходнія народы тапталіся на працягу сарака пяці пасляваенных гадоў на месцы і нарэшце прызналіся, што зайшлі ў тупік, пабітыя немцы выйшлі на шырокі шлях і сёння апынуліся на пазіцыях, якія дазваляюць ім дыктаваць свае ідэі і законы свету.

Узнікае толькі адно пытанне: верыць немцам ці не верыць? Няхай на гэта пытанне адкажа сабе кожны чалавек. Няхай на гэта пытанне адкажуць паасобныя народы. Няма сумненняў, што аднаго для ўсіх людзей і народаў адказу быць не можа. Застаецца толькі маліцца, каб усіх гэтых людзей і народаў не сустрэла адна вялікая бяда.

**Алесь Барскі**




**На палях Грунвальда** адбыліся патрыятычна-рэлігійныя ўрачыстасці ў гонар 580-ай гадавіны пераможнай бітвы з крыжакамі. У святкаваннях удзельнічалі: прэзідэнт Рэчыпаспалітай Польскай Война Ярузельскі, маршалак Сейма Мікалай Казакевіч і маршалак Сената Анджэй Стэльмахоўскі. Ва ўрачыстасцях прысутнічала парламенцка-ўрадавая дэлегацыя з Літвы, на чале са старшынёю Вярхоўнага Савета Літвы Вытаўтасам Ландсбергісам. Беларусь прадстаўлялі неафіцыяльныя дэлегацыі патрыятычнай моладзі.

**У Мінску ўпершыню на Беларусі адзначаліся ўгодкі Грунвальдскай бітвы.** Ранкам, 15 ліпеня, у Кальварыйскім касцёле ў Мінску біскуп Тадэўш Кандрусевіч правеў набажэнства. Потым у парку імя Янкі Купалы мастакі арганізавалі выстаўкі, працавалі кіёскі незалежнага друку, на сцэне спявалі самадзейныя музычныя калектывы і барды, выступалі відныя дзеячы беларускай культуры: Адам Мальдзіс, Мікола Купава, кс. Ян Матусевіч, Зянон Пазьняк.

**Вярхоўны Савет Украіны прыняў дэкларацыю незалежнасці** гэтай рэспублікі. Дэкларацыя аддае пераважу рэспубліканскім законам над савецкімі і падкрэслівае роўныя правы ў замежных адносінах. Прадбачвае яна таксама пераўтварэнне рэспублікі ў нейтральную дзяржаву з уласнай арміяй і валютай. Украіна з'яўляецца сёмай савецкай рэспублікай, якая абвясціла сваю незалежнасць.

**Сойм Беларускага народнага фронта „Адраджэньне"** разглядаў справу незалежнасці Беларусі. Гэтае пытанне дэпутаты БНФ паставяць перад Вярхоўным Саветам БССР.

**На Беларусі была апрацавана праграма па забеспячэнню прац насельніцтва рэспублікі,** якая прадбачвае арганізаванне ў гарадах і пасёлках устаноў па працаўладкаванню, а таксама акрэслівае юрыдычны статус беспрацоўнага.

**Гранічны пункт у Агароднікаx** на граніцы паміж Польшчай і Літвою аднавіў сваю дзейнасць 21 ліпеня. Быў ён закрыты для турысцкага руху ў красавіку г.г., калі ўлады СССР аб'явілі блакаду Літвы.

**Рэдакцыя „Газеты Всполчэснай" атрымала адказ** з Міністэрства справядлівасці на заяву старшынь БГКТ, БДА і БАС **у справе назначэння ваяводскага пракурора** (друкавалася яна ў „Ніве" 10 чэрвеня). У ім высвятляецца, што Лех Лебэнштэйн на працягу чатырох дзён пасля прыняцця пасады (яшчэ перад прыняццём заявы) адмовіўся ад функцыі старшыні Грамадзянскага Камітэта ў Беластоку, а заўвага аб веданні нацыянальна-рэлігійнай спецыфікі рэгіёна не датычыцца ў асноўным да выконвання функцыі пракурора.

**У сувязі з пажарам царквы на Грабарцы** Хрысціянска-грамадская унія (УХС) звярнулася да вернікаў і іерархаў іншых касцёлаў з заклікам дапамагчы адбудаваць храм. УХС асуджае падпаленне царквы і называе яго актам варварства і святатацтва.

**Рэдакцыя літоўскага месячніка „Аўшра"** і ліцэй у Пуньску атрымалі ў падарунку ад літоўцаў з ЗША сучасныя прафесіянальныя камп'ютэры тыпу ІВМ. Камп'ютэр будзе выкарыстоўвацца пры выдаванні часопіса.

# ЖЫВЕ, ЖЫЛА І ЖЫЦЬ БУДЗЕ БЕЛАРУСЬ!

У чацвер, 28 чэрвеня, закончыла турнэ па Беларусі амерыканская беларуская танцавальная група „Васілёк" сваім развітальным канцэртам у старажытным беларускім горадзе над Нёманам. Гарадзенцы, якія да адказу запоўнілі вялікую залу Палаца культуры, атрымалі такі зарад на жыццястойкасць, што ён не можа вылічыцца ніякімі адзінкамі сучаснага вымярэння.

Нашы дарагія далёкія суайчыннікі прывезлі з сабою медыкаменты для паляпшэння біялагічнага стану ахвяр Чарнобыля, і разам з тым яны прывезлі і падарылі нам свае чыстыя душэўныя памкненні, без якіх нельга жыць чалавеку на зямлі. Іх дзейнасць — прыклад высокага ўсведамлення сваёй чалавечай годнасці і адказнасці за лёс нацыі.

У хвалюючых ад чыстай душы выступленнях нашых гасцей гучалі ноткі папроку ў наш адрас за бяздзейнасць, абыякавасць да вырашэння галоўнага пытання — духоўнага жыцця нацыі, яе біялагічнага выжывання.

У апраўданне хочацца сказаць:

— Дарагія нашы суайчыннікі, даруйце! Нам, сягоння жывучым на зямлі, лёс дараваў мноства суровых выпрабаванняў, самым апошнім з якіх з'явілася чарнобыльская бяда. Але мы пакуль жывем. І сведчаннем таму — бурныя авацыі, букеты красак, слёзы на вачах і гарачыя словы падзякі з залы. Вялікі імпульс жыццястойкасці падарылі нам вы сваім канцэртам. Ну, а калі ўжо лёсу спатрэбіцца наша поўнае знікненне, то наш апошні беларус перадасць эстафету жыць нашай нацыі на планеце вам. Вялікае дзякуй вам ад нас і ад нашай многапакутнай зямлі беларускай. Плёну вам і шчасця чалавечага.

Сумесна з „Васільком" Гродна наведалі ансамблі „Жывіца", „Раніца" і спявак Сяржук Сокалаў-Воюш. Выступленні і гэтых калектываў прысутныя сустрэлі з вялікім задавальненнем.

Здаецца, нязломны дух нацыі не змог змясціцца ў сценах залы і вырваўся магутнай хваляй у падвячоркавае паветра над горадам. Гэтаму спрыялі шчырыя песні Сяржука Сокалава-Воюша, які пасля канцэрта выйшаў з гітарай на ганак Палаца і на развітанне дарыў іх людзям.

На вечары па просьбе дзяўчат з залы я падарыў аднаму прыгожаму юнаку з „Васілька" (хоць там усе былі прыгажунамі) букецік белых рамонкаў з нашых беларускіх палёў. Яны былі такія ж прыгожыя, як і светлыя думы нашых прыгажунь.

Сведчаннем зліцця душэўных парываў артыстаў і залы з'явілася сумеснае выкананне на заканчэнне канцэрта песні „Люблю наш край". Зала хвалявалася, плакала. Плакала ад радасці, ад гордасці, ад шчасця сустрэчы, ад поўнага ўсведамлення чалавечай годнасці, ад права жыць на зямлі. Доўга не змаўкалі воклічы-прывітанні „Жыве Беларусь!"

**Мікола Грышан**

# Праграміст які спявае сам сабою

(Працяг са стар. 1)

яго ў стан здаровага нацыянальнага жыцця. З талакоўцамі спявак абыйшоў шмат гістарычных сцежак роднае зямлі, дапамагаў рэстаўратарам на архітэктурных аб'ектах, удзельнічаў у культурнай праграме I сойму беларускіх суполак у Палачанцы, у інтэрнацыянальным экалагічным рэйдзе-пратэсце „Ратуйма" па Прыдзвінні. З'явіліся новыя тэмы, новыя сродкі іхняга ўвасаблення.

Праз які год-два ў яго ўжо сабралася неблагая падборка песень, сярод якіх былі і сапраўдныя супер-гіты, што маланкава разыходзіліся пасля канцэртаў па магнітафонах беларускай моладзі: „Які я беларус", „Рэшткі вуліц Менска ў Мінску", „Ты не ўмёрла". Асабліва інтрыгуючай была, бадай, песня „Капішча", у структуры якое моцна адбілася рокавая рытміка, напружаная мелодыка, сугестыўная вобразнасць:

Сабакі выюць там,<br>
І зводзіць глоткі нам<br>
Капішча.<br>
Што ўночы там гарыць?<br>
Зялёны стод маўчыць.<br>
Капішча.<br>
А заўтра зноў прыду сюды,<br>
І знікнуць тут мае сляды,<br>
Капішча.

Летам 1989 года Зміцер Сідаровіч зачыняецца ў сваёй хатняй студыі ў Мінску і запісвае свой першы альбом „Надзіманне святым духам", куды ўвайшло 16 песень розных гадоў, але падпарадкаваных адзінай канцэптуальнай структуры праграмы. Практычна ўсе яны (і музыка, і вершы) — плён творчасці самога Зміцера, але, натуральна, ёсць і выключэнні. Напрыклад, песню „Дзвіна" напісаў наваполацкі гітарыст **Алег Паўлёнак** на вершы Э. Зайкоўскага, а вельмі прыгожую лірычную „Зіму белавежскую" Сідаровіч напісаў на вершы вядомага беларускага паэта з Варшавы Алеся Барскага:

Эх, зіма белавежская, белая!<br>
Па краіне рассыпаўся снег.<br>
Толькі дрэвы стаяць акалелыя<br>
І сумуюць па цёплай вясне.<br>
Эх, зіма белавежская, шчырая!<br>
Выпаўняе далін берагі.<br>
Завіруха дыхнула ў шыры,<br>
Лёг абрус на палі і лугі.

Тэматычны дыяпазон альбома Зміцера Сідаровіча „Надзіманне святым духам", як бачыце, даволі шырокі, але гуртуецца на арбіце духоўнасці і нацыянальнай свядомасці. Нядзіва таму, што набыў вялікую папулярнасць сярод адраджэнскай моладзі. Звярнула на яго ўвагу і прэса.

Вось што пісаў **7.X.1989 г.** у „Чырвонай змене" з гэтай нагоды Алекса Радчанка: „Песні Сідаровіча захапляюць не толькі шчырасцю, але і спецыфічным выкананнем, своеасаблівай афарбоўкай і мелодыкай. Да таго ж актуальныя словы песень даюць права залічыць яго ў шэраг лепшых майстроў беларускай песні".

Дый сапраўды, вясною 1990 года Зміцер Сідаровіч ужо прымае ўдзел ва ўсебеларускім фестывалі бардаўскай песні ў Гомелі, дзе з гонарам трымае сваю марку побач з такімі зоркамі гэтага жанру, як Алесь Камоцкі, Сяржук Сокалаў-Воюш, Вольга Цярэшчанка...

Маючы ў жыцці пэўную асноўную працу (інжынер-праграміст), Зміцер Сідаровіч-бард усё ж заўсёды знаходзіць час і сілы ўдасканальваць свае творчае аблічча, пашыраць рэпертуар. Наспелі ўжо да запісу яшчэ два альбомы — „Места Менск" і „ВКЛРЖ", завяршаецца распрацоўка цыкла песень на вершы Максіма Багдановіча. Рыхтуе знаёмства з маладым выканаўцам і папулярная тэлепраграма „Крок", дзе нямала часу пойдзе на тое, каб найбольш пераканаўча данесці да слухача свае думкі, ідэі, пачуцці. **Творчасць Зміцера Сідаровіча — гэта не мастацкая самадзейнасць у вольны час, а сур'ёзная справа, жывая галінка ягонага жыцця. Жыцця творчай асобы, якая дапамагае людзям знайсці сябе ў захапленнях, у справах, у сваім народзе.**

**Вітаўт Мартыненка**

Фота У. Панады






### ШТО ЗДАРЫЛАСЯ Ў МЕЛЬНІКУ?

У 25-ым нумары „Нівы" была апублікавана інфармацыя, што „Кандыдат на пасаду войта начальнік гміны Ян Здуневіч быў пабіты невядомымі злачынцамі і знаходзіўся ў шпіталі. Атрымаў ён таксама ліст-ананімку, у якім „жыхары Мельніка" раяць яму адмовіцца кандыдаваць".

Даражэнькія рэдактары, чаму не пішаце праўды? Што Вас палохае? У Мельніку гісторыя паўтарылася. І вашым абавязкам высветліць яе матывы. Мне, чытачу „Нівы", гэтая справа неабыякавая.

А вось што піша „Chłopska Droga": „W miejscowości Mielnik położonej na krańcach woj. białostockiego dokonano zamachu na naczelnika gminy Jana Zduniewicza. Po powrocie z procesji prawosławnej i spotkaniu z mieszkańcami w przygranicznej wsi Tokary, około godz. 23.00, gdy znajdował się koło swego domu, rozległ się strzał. Szybko wezwana karetka pogotowia przewiozła rannego w głowę do szpitala w Białymstoku".

Мы ж беларусы і хочам сабой звацца. Пастарайцеся ў рэдакцыі высветліць эпілог мельніцкай трагедыі. Ведайце, што беларускае грамадства гэтага патрабуе!

**В. Семянюк**

**Ад рэдакцыі:** Да справы Мельніка вернемся ў асобнай публікацыі.




### З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.

— 22 —

Пракламацыя ад 25.III.1918 года аб незалежнасці Беларусі трактуецца беларускімі нацыянальнымі асяроддзямі як пераломны факт у гісторыі народа. Дзень 25 сакавіка быў прызнаны нацыянальным святам. Несумненна, пастанова была выключнай, бо першы раз ставіла вельмі выразна справу незалежнасці Беларусі, а таксама старалася надаць беларускай справе міжнародны характар, просячы ўсе народы аб дапамозе ў рэалізацыі сваіх нацыянальных і дзяржаўных ідэалаў.

І, нягледзячы на гэта, выклікала яна неспадзяваныя эфекты. Перш за ўсё, як ужо было зазначана, наступіў раскол у Радзе рэспублікі, раскол, які яе яшчэ болей паслабіў. Апрача гэтага, наступіў раскол у Беларускай сацыялістычнай грамадзе.

Беларуская сацыялістычная грамада была той арганізацыяй, у якой канцэнтраваліся ўсе беларускія нацыянальныя імкненні і ўсе левыя напрамкі рэвалюцыйнай ідэалогіі. Яе дзеячы стварылі Вайсковую раду, адыгрывалі найбольшую ролю на Першым агульнабеларускім з'ездзе — яна была стваральніцай усіх тагачасных палітычных канцэпцый. Пасля абвяшчэння III Устаўной граматы ў Беларускай сацыялістычнай грамадзе наступіў раскол, у выніку якога арганізацыя фактычна перастала існаваць.

Прычын расколу магло быць вельмі многа... Несумненна, найважнейшай з іх была дзейнасць Беларускай сацыял-рэвалюцыйнай партыі, якая выдзелілася з рускай партыі сацыял-рэвалюцыянераў і камуністаў. Як беларускія эсэры, так і камуністы, імкнуліся да таго, каб апанаваць Беларускую сацыялістычную грамаду. Калі ім не ўдалося апанаваць Грамаду, яны імкнуліся перацягнуць яе членаў у свае рады. Вядома, што беларускія эсэры ўвялі ў Беларускую сацыялістычную грамаду сваіх членаў: Бадунову, Цвікевіча, Грыба, Трафімава, а камуністы ўвялі Хадкевіча, Рагулю, Шантыра, Шолкава. Яны стварылі такую атмасферу, што раз-біццё Грамады вымагала кароткага часу. Непасрэднай прычынай, якую эсэры і камуністы выкарысталі, было прыняццё дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі. Адрыў Беларусі ад Расіі супярэчыў як выхаваным на ідэях рускіх рэвалюцыянераў эсэрам, так і камуністам.

Беларуская сацыялістычная грамада распалася на чатыры партыі. Беларускія эсэры, члены Рускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў і іх сімпатыкі з Беларускай сацыялістычнай грамады стварылі Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Членамі яе былі: Баранаў, Бараноўскі, Бадунова, Хлябовіч, Хадкевіч, Цвікевіч, Гайдадэй, Грыб, Езавітаў, Касцяльніцкі, Касцевіч, Козіч, праф. Крэчаўскі, Курбскі, Ластоўскі, Мамонька, Мядзёлка, Рак-Міхайлоўскі, Міхалевіч, Муха, Новік, Асвяцімскі, Сямёнаў, Сяргееў, Сакалоўскі, Шантыр, Трафімаў, Захарка, Заяц і іншыя.

У Цэнтральны выканаўчы камітэт Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў уваходзілі: Баранаў, Бадунова, Цвікевіч, Грыб, праф. Крэчаўскі, Ластоўскі, Мамонька і Мядзёлка.

Язэп Варонка стварыў Беларускую партыю сацыялістаў-федэралістаў. Апрача таго, узнікла партыя незалежных сацыялістаў.

Некаторыя дзеячы Беларускай сацыялістычнай грамады, якія лічылі сябе сацыялістамі-рэвалюцыянерамі, а былі бальшавіцкімі агентамі і займаліся камуністычнай справай, арганізавалі камуністычную партыю. Належалі да яе Хадкевіч, Муха, Асвяцімскі, Шантыр і Рагуля. Першыя чатыры былі адначасна бальшавіцкімі агентамі і членамі Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

Такім спосабам распалася Беларуская сацыялістычная грамада — кангламерат шматлікіх палітычных, грамадскіх, нацыянальных напрамкаў і адценняў. Кожная з наваствораных партый стала на свой асобны шлях згодна з уласнай ідэалогіяй.

*(Працяг будзе)*

## Наша пошта

**Добры дзень, шаноўная „Ніва“, дарагія беларускія браты!**

Дзякуючы Вашай газеце шмат чаго новага даведаўся я аб жыцці суайчыннікаў у Польшчы. Цікава, але раней я нават і не ведаў, што вялікая колькасць беларусаў існуе ў Польшчы. Усё было ясна, як у казцы — вялікі і магутны Савецкі Саюз, у якім жыве „савецкі“ народ, а за ўзмежжам нашыя меншыя браты: палякі, чэхі, славакі..., якія „держат равнение на нас“. Усё ж у цікавы час мы жывем. Каб не было перабудовы, можа, і жыў бы я далей, не задумваючыся, хто я — беларус, ці „савецкі“ народ, кавалак усяго таго, што можна назваць па-лацінску homo sovieticus. Але ведаеце, мне асабіста хочацца, каб мая Радзіма, як і калісьці ў сівой даўніне, была кавалкам Еўропы, у самым шырокім сэнсе гэтага слова. І я таксама думаю, што менавіта так і будзе, таму што ўсё больш людзей разумее гэта. Дай то Бог. Вы ведаеце, калі глядзіш на тыраж Вашае газеты, то шмат розных думак з'яўляецца. Я добра разумею тых польскіх беларусаў, якія цалкам выракліся сваёй беларускасці і сталі стапрацэнтнымі палякамі. Ім беларусамі быць проста нявыгадна. Якія, да халеры, беларусы, калі на Беларусі не пачуеш беларускай мовы, калі няма айчыны беларускасці. Ляпей быць, як Міцкевіч, ці Ажэшка з Манюшкам, палякамі, тым больш, што беларусы-шляхцічы ў агульнай сваёй масе ў даўніне былі такімі ж палякамі — па нацыянальнасці паляк беларускага паходжання, як яны казалі. Беларусам у Польшчы быць проста нявыгадна, вось у чым Ваша бяда. Але што Вам доўга аб гэтым пісаць? Вы, напэўна, гэта не горш за мяне ведаеце. Трэба шукаць выйсця з гэткага становішча. Я гэта выйсце бачу ў шчыльным супрацоўніцтве ўсіх беларускіх сіл у Польшчы з БНФ „Адраджэнне“. І вельмі добра, што гэтае супрацоўніцтва ўжо пачалося. Я таксама хачу спрычыніцца да гэтага супрацоўніцтва. Я хацеў бы перапісвацца з маладымі беларусамі ў Польшчы, якія цікавяцца сваёй Радзімай — Беларуссю. Спадзяюся, што шаноўная рэдакцыя „Нівы“ мне ў гэтым дапаможа.

Цяпер трохі аб сабе: мне 18 гадоў, жыву ў Мінску, сябра БНФ „Адраджэнне“, мог бы абменьваць беларускі незалежны друк на выданні беларускага руху ў Польшчы. Мой адрас:

220015 Мінск-15
пр. Пушкіна, д. 7, кв. 62.
Аляксандр Сватко



## Свойскія малюнкі



*Тыкоцін. Малюнак У. Петрука.*

## САКРАТ ЯНОВІЧ
## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

— 5 —

У „Юбілейнай“ адшукалі мяне сын Славік і ягоны польскі калега Януш, адкуль мы паехалі на выставу трыпціха Аляксея Марачкіна, прысвечанага Скарыне (гіпатэтычны дыспут бацькі беларускага Адраджэння са швейцарцам Парацэльсам). Вернісаж адбываецца ў глядзельнай зале Бібліятэкі імя Янкі Купалы; пашчасціла мне пазнаёміцца на ім з выдатным паэтам Алесем Разанавым, аўтарам „Вастрыя стралы“, і з Алегам Бэмбелем, тым самым, якога мала не заела наменклатура за выданне ў Лондане пяццю гадамі раней даследавання „Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс“ (дорыць мне аўтарскі экземпляр „Малітвы за Беларусь. Першы зборнік на Радзіме“). Бяру слова і я, беларускі пісьменнік з некалі беларускага Беластока. Гавару да беларусак і беларусаў з розных куткоў Беларусі і раптам прыкмячаю ў некага з іх слёзы на вачах. А цішыня такая, што чую пульсаванне ў скронях, і на хвілю-другую глухне мой голас: гэта ж яднанне беларусаў адбываецца!

Потым — да змяркання прагаварылі ў неправўдападобна беднай майстроўні Аляксея, таленавіцейшага мастака Беларусі. Намаляваная ім „Божамаці ахвяраў Чарнобыля“, ужо высвечаная, чакае свайго ўрачыстага ходу з харугвямі на знішчожанае савецкім атамам Палессе. Пятая частка тэрыторыі Рэспублікі, яе паўднёвы ўсход непрыдатны для жыцця і трэба б адтуль высяліць каля двух мільёнаў чалавек. Гэта ўжо шостая па чарзе катастрофа нашай нацыі, роўная сталінскаму народазабойству і маскоўскаму спусташэнню ў палове семнаццатага стагоддзя, пасля якога засталіся бязлюдныя цэлыя тадышнія паветы, калі ў царскі палон пагналі дзесяткі тысяч людзей нават з цяперашняй Беласточчыны.

Ці ў сілах адрадзіцца Беларускі Народ? — нязменная тэма вячэрніх размовак у Мінску. Сталіца лепей паінфармаваная, у ёй гэта разгар нацыянальнай барацьбы за выратаванне, пакуль правінцыя прачынаецца, традыцыйна зацюканая, укамплякселая. Медыкі звяртаюць увагу, што Чарнобыль парушыў генетычны фонд беларускай біялагічнай субстанцыі, у выніку чаго пагражае ёй дэгенерацыя ды бясплоднасць бліжэйшых пакаленняў. Калі бяда, дык адна мала, — будаўніцтва камунізму мелася закончыцца ліквідацыяй нацыянальнасцяў, пераўтварэннем іх у нейкі савецкі народ... Перш як бы Чарнобылем для беларускай мовы і культуры. Найбольш удала дабіваліся гэтага менавіта ў Беларусі, вякамі запознена ў сваім развіцці, даўно здратаванай войнамі і агрэсіяй памагутнелых суседзяў, Польшчай і Расіяй. Сваімі сіламі нам нехутка было б падняцца з каленяў, пазбыцца прыбітасці і парабкоўскай загледжанасці на ўсходняга барына ды заходняга пана. Але паўтараецца, вось дзіва, банальны ў гісторыі цуд непазбежнага распаду ўсякай імперыі, у якім выяўляе сваю моц закон прыкладу і аналогіі. Па яго энергіі ўзляцела ў вышыні Маладая Беларусь, у пачатку веку пары і электрычнасці, апошнім птахам эмансіпаванай Еўропы. І такім жа парадкам астатняга ў шарэнзе роўных Беларуская Зямля крочыць штораз шпарчэй у суверэннасць і незалежнасць. Аказваецца, што Гісторыя — гэта не хаос, цярплівая яна да дурнаты, але і бязлітасная для яе.

З перспектывы прывакзальнай плошчы, дзе развітваўся я з мастакоўскай сябрынаю, беларускія праблемы Беластоцкага краю здаліся мне не так вельмі і значнымі перад веліканам Белай Русі, які паўстае паднебным волатам. І ўспомніўся тады мне маладзенькі лейтэнант, з якім курыў я ў тамбуры спальнага вагона начнога цягніка з Гродна ў Мінск: ён хоча служыць у будучай арміі Беларускай Рэспублікі.

*(Працяг будзе)*

### НЕ ЗАБЫВАЦЬ

**Давайце не забываць і аб беларускіх суполках за межамі рэспублікі. Свята дапамагло ўпершыню сабраць іх усіх разам на беларускай зямлі. І мы ўбачылі, што нашы далёкія і блізкія землякі вельмі беражліва і ўмела захоўваюць нацыянальныя традыцыі. Тут і нам ёсць чаму ў іх павучыцца. Для мяне былі сапраўдным адкрыццём фальклорныя дзіцячыя калектывы, „Зарняткі“, „Васілёчкі“ з Беласточчыны. Іх удзельнікі самі пішуць тэксты, музыку.**

**Але вось якая ўзнікае праблема: пасля заканчэння школы амаль уся таленавітая моладзь едзе ў Варшаву, ФРГ, Францыю, каб там прадоўжыць адукацыю. Яе самабытныя, нацыянальныя карані, натуральна, паступова страчваюцца. А чаму б не запрасіць гэтых дзяцей у нашы школы і ВНУ, можа захаваўшы тым самым іх талент для беларускай нацыі?**

**МІХАЛ ДРЫНЕЎСКІ**

**(У рэдакцыйнай дыскусіі за „круглым сталом“ на тэму вынікаў Свята славянскага пісьменства і культуры — „Звязда“ № 150 ад 3.07.1990 г.)**

**(Працяг са стар. 1)**

нас хоць адбаўляй. І хто нас можа паважаць, калі мы свайго не шануем...?!

... *Ой рана на Івана, Дзе Купала начавала? Ой рана на Івана...* — рэпеціруюцца „купалінкі“. Ужо амаль зусім сцямнела. Крапаціць дождж па лісцях.

— ... Я ў арміі быў. Усе грузіны, армяне — на сваёй мове гаварылі. Давай і я, думаю, да сваіх адазвуся. „Што?!“ Як паляцелі словы розныя на мяне ад маіх землякоў! Ну, ад чаго такая тупасць? Не скажаш яму: „Дрэнна думаеш“. Як упартаму дурному дзіцяці, не скажаш. Як ты пасмееш звярнуць увагу?! У нас няма нацыі, у нас... быдла! Самі над сабой такое чаўпуць! Гэта ж народ? Украіна 365 мільёнаў узяла з фонду, 60 адвялі атамэнергіі, а дваццаць узялі беларусы, хаця на Беларусь 70 працэнтаў радыяцыі пайшло! З усімі ўсім падзелімся, і сваё аддамо, і свайго не просім, і маўчым.

Падбегла Бажэна ў ружовым вяночку. Яшчэ хвіліну і пачнецца святкаванне...

— Вось, паглядзі, колькі нас тут усіх — з усяго амаль 300-тысячнага горада. Жменька.

# БРАТЫ МІРАНОВІЧЫ

*Яўген і Антон Мірановічы — гісторыкі. У чэрвені абодва абаранілі свае доктарскія працы (кандыдацкія дысертацыі). Абодва яны — актыўныя дзеячы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання: Яўген Міранович — член Галоўнай рады БДА, намеснік старшыні, Антон Мірановіч — член Краёвай управы БДА. „Ніва", віншуючы іх з атрыманнем навуковых ступеняў, папрасіла ў іх адказаў на наступныя пытанні:*

*1. Што ў Вашай дысертацыі заслугоўвае шырэйшай увагі?*

*2. Як бачыце сваю далейшую навуковую дзейнасць?*

*3. З чаго вынікае Ваша палітычная актыўнасць у беларускім руху?*

*4. Як ставіцеся да навуковай і палітычнай кар'еры Вашага брата?*

### ЯЎГЕН

1. Тэма маёй дысертацыі — „Беларуская нацыянальная меншасць у Народнай Польшчы 1944—1949". Я напісаў яе пад навуковым кіраўніцтвам прафесара Ежы Тамашэўскага з Варшаўскага універсітэта і абараніў яе ў Варшаве 20 чэрвеня. Агульна кажучы, мая праца — гэта характарыстыка нацыянальнага, палітычнага і эканамічнага вобліку беларускага насельніцтва пад Польшчай у вышэй названым перыядзе. Тэма гэтая ніколі не разглядалася комплексна ў гістарычнай навуцы, праўда, былі магістэрскія працы, але даволі павярхоўныя і банальныя. Нават сапраўднай публіцыстыкі на гэту тэму не было. Матэрыялы застаюцца ў архівах, далей няма доступу гісторыкам да архіваў Міністэрства ўнутраных спраў, якія датычаць таго пасляваеннага перыяду.

Спачатку я заняўся асвятленнем беларускага пытання ў Польшчы ад пачатку гэтага стагоддзя да 1945 года. Я паказаў асноўныя прыкметы гістарычнага вопыту беларусаў да пачатку пабудовы новага палітычнага ладу ў Польшчы. У гэтым святле робіцца больш зразумелымі рэакцыі беларусаў на новыя абставіны ў краіне. Гэта першая частка працы. Другая частка датычыць аналізу палітычнай і нацыянальнай свядомасці беларусаў у першыя пасляваенныя гады. Асноўнае пытанне — колькі беларусаў пражывала тады на Беласточчыне? Паводле дакументаў — каля 160 тысяч. Аднак жа дакладна немагчыма гэта вызначыць ні праверыць. Тым больш, што дзяржаўная палітыка ў дачыненні да нацыянальных меншасцяў за той кароткі перыяд рэзка мянялася, і раз беларусы ў Польшчы былі, другі раз — іх не было. Гэта, калі гаварыць пра афіцыйную дзяржаўную версію. Для прыкладу, у Сакольскім павеце ў 1947—48 г.г. афіцыйна было запісана 59 беларусаў, і на працягу трох месяцаў у 1948 г., калі дзяржава пачала шукаць беларусаў, іх лік павялічыўся да 14 тысяч.

Рэформа ў сельскай гаспадарцы, праведзеная народнай уладай, практычна не змяніла быту беларускіх сялян. Зямлю атрымалі ў першую чаргу так званыя „фальварчныя людзі", беларусы заставаліся на сваім. Не змяніліся і метады гаспадарання: як было да вайны, так і далей.



Адносіны беларусаў да народнай улады: беларусы вельмі хутка зразумелі, як дзейнічае механізм гэтай улады, і як трэба да яе ставіцца, каб пакарыстацца для сябе. Улада патрабавала „народнай падтрымкі" і лаяльнасці, што яна і знайшла сярод беларусаў. Новая ўлада давала беларусам магчымасць сацыяльнага авансу, якою яны наогул пакарысталіся. Існуе і дагэтуль міф пра тое, што пры камуністах беларусы масава ўступалі ў партыю і пераняў ўладу на Беласточчыне. У сапраўднасці справа выглядала так: фактычна, у партыйных арганізацыях Беласточчыны беларусы пераважалі, але складалі яны ўсяго 1% дарослага беларускага насельніцтва. Пакуль дзейнічала польскае падполле, палякаў у партыі было няшмат, але сітуацыя змянілася ў 50-ыя гады, калі стала ўсім вядома, што новая ўлада замацавалася і застанецца. Тады ў партыю масава рушылі палякі.

Палякі ў вачах беларусаў — гэта апошняя частка маёй працы. Беларусы выразна адрознівалі ўладу ад шырэйшага польскага грамадства. Улада давала магчымасць сацыяльнага авансу, польскае грамадства асацыявалася беларусам перад усім з рэпрэсіямі падполля, з расстрэламі і спальваннем беларускіх вёсак. Канфлікт на Беласточчыне ў другой палове 40-ых гадоў я хутчэй за ўсё назваў бы нацыянальным канфліктам, а не класавай барацьбою, звязанай з усталяваннем новага палітычнага ладу.

2. Я маю розныя прапановы ад навуковых асяродкаў, каб апрацаваць тую ці іншую тэму, аднак на паслядоўную навуковую працу няма ў мяне магчымасцяў і перспектываў пакуль што. Па-першае, я не звязаны сцісла з нейкім навуковым асяродкам. Па-другое, жывучы ў Беластоку, мне даволі цяжка прымаць актыўны ўдзел у навуковым жыцці: вялікі кошт пераездаў, скажам, з Беластока ў Варшаву або ў нейкі іншы навуковы асяродак, ды і часу нямала трэба патраціць. Паволі пачынаю збіраць матэрыялы па гісторыі беларусаў Беласточчыны ў 1946—56 г.г. Што з гэтага выйдзе — пабачым...

3. Мая палітычная актыўнасць вынікае з маёй унутранай патрэбы.

4. Як навуковец Антон мае вялікія шанцы і перспектывы, паколькі ён прысутнічае ў акадэмічным жыцці, ён звязаны з навуковым асяродкам. Даследчык з яго неблагі, і я гляджу на яго навуковыя поспехі з прыхільнасцю. Антон як палітык? — ... мне цяжка вызначыць яго палітычную пазіцыю...

Запісаў **Ян Максімюк**

*У наступным нумары — слова Антону Мірановічу.*

# КУПАЛЯЛЁ...

— Але, гавораць, ёсць яшчэ адно Купалле, на Юбілейным возеры, „дарослае". Нашыя беластоцкія калектывы туды паехалі.

— Ну і што? Вось мы тут сабраліся, але мы больш на нейкую секту падобныя, не на арганізацыю. Цяпер амаль кожны толькі думае, як пражыць, што купіць заўтра. А якая там культура каму ў галаве?

Праз гоман прабіваецца голас Віктара Шалкевіча, які адкрывае святкаванне. Мы стаім далей, пад дрэвам, у галінках якога шамаціць дождж.

— Я такое заўважыў... У нас тут больш усё русіфікавана, чым пры самай граніцы з Расіяй. Там у вёсках я чуў беларускую мову, а ў нас усе стараюцца гаварыць „как надо". Што нам рабіць?!

— Гляньце, што мы будзем рабіць! — дэманструе Шалкевіч. — Спявайце ўсё, толькі не „День победы", — крычыць да прысутных, ходзячых у коле. Цікавая гульня, і нацалавацца можна ўдосталь. Лье дождж.

— Мама, мама, посмотри! — крычыць дзіця.

Мы набліжаемся да берага Нёмана. Плыве да нас княжаская лодка.

— Князь Купаліч! Э-гэ-гэ! — крычым. І яшчэ раз.

— Мусіць, у іх княжастве яшчэ талонаў на гарэлку не давалі, бо надта ж блага вяслуюць! Блага, блага!

— Мне не видно, мама...

— ... Гародня, Гародня, панеспадару!

— А чаму ж агню ў вас не відаць?

— А вы павінны прывезці. Няма ў нас купальскага агню.

— А князь у вас ёсць?

— І князя няма, як ні жаль.

— А ў нас князь ёсць.

— А ў нас Купалінка ёсць.

— Можа зговорымся? У вас тавар, у нас купец. А дружыну беражаце?

— Бяром, бяром! Забяспечым харчамі, начлегам і ўсім астатнім.

— А што астатняе?

— Дастанеце ўначы.

— А хто ў вас кіруе?

— Кіслы-мастак.

— Гэта вы — Кіслы? Вы не Віктар Шалкевіч?

— А, гэта я, прашу пане-спадару... З Берасцавіцы ідзяце?

— Не, з Оршы.

— Там жа Нёмана няма.

— Ну і што?

Усе смяюцца, цешацца. Паплыла песня.

*Ой, рана на Івана, проці Івана ночка мала, ой, рана на Івана...*

Вядзем дружыну князя Купаліча на зялёны мокры луг, дзе ўсё гарачэйшая атмасфера, хаця дождж лье, як з вядра.

— Прыязджаю я сюды ўжо другі год. Ведаю, ведаю, добра мяне сустракаеце, — адказвае на прывітанне Купаліч. — Жадаю вам усяго добрага. Каб бульба ў вас урадзіла...

— Бульба, як булава, а буракі, як конская галава!

— І ўсё без талонаў.

Бярэцца дружына Купаліча перацягваць канат. Праўда, у дружыне гарадзенцаў ёсць нашыя Марэк, Славік і Збышак з Вроцлава. Вядома, світа Купаліча перамагла — з падмогай ёй паспяшыла восем хлапцоўасілкаў.

— Не перевелись богатыри на земле русской, — уцешыўся адзін глядач.

— На беларускай! — заўважыла Ала.

— Хай будзе і беларускай! — адазваўся іншы.

— Все мы жители страны Советов!

Чаго тут не было! І чары, і чарцяняты, і таямніча бліскала з-пад карчоў папараць-кветка.

Цішыня. Агонь памаленьку ліжа галінкі.

— Гарыць!!! — паплыла Купалінка.

Забава была ў разгары, калі мы, прамоклыя да апошняй ніткі, бяжым да аўтобуса. Шкада пакідаць вясёлую кампанію, святы агонь, ціхі пад плашчом дажджу Нёман. Віця Сухі сумна ўсміхаецца.

— Сухі ж я, не прамокну! А вы не ўсё пускайце з магнітафона, што я гаварыў. Сумна часам чалавеку робіцца, то і гаворыць.

Мы падаліся ў напрамку гасцініцы, а за намі лягела песня пад дажджом:

*Купалялё, на сенажаці, мядуначка, Купалялё! Купалялё, там кукавала зязюлечка, Купалялё! Купалялё, як кукавала, праўду казала, Купалялё! Купалялё, а што казала, не ўсім то знаці, Купалялё!*

**Міра Лукша**

# А Ў СЭРЦЫ АСТАНЕЦЦА

Час навукі ў сярэдняй школе назаўсёды пакідае трывалы след у жыцці чалавека, астаецца ў яго памяці. Тады ён спасобіцца да дарослага жыцця, вырашае сваю будучыню, свой лёс, нярэдка на ўсё жыццё. І чым далей ад экзаменаў на астэстат сталасці, у нас называных матурай, тым часцей і больш чулліва ўспамінаюцца гады, праведзеныя ў школе. А вяртаюцца ўспаміны тым больш назойліва, калі ведаеш, што тваёй школы ўжо няма, што яе існаванне — гэта ўжо гістарычны факт, які жыве яшчэ ў людской памяці, каб з часам стаць запісам у архіўных дакументах.

І вось у сакавіку г.г. група бельскіх настаўнікаў, выпускнікоў існаваўшага калісьці Педагагічнага ліцэя, вырашыла арганізаваць чарговы з'езд навучэнцаў гэтай школы. Папярэдні — адбыўся даўнавата, бо дваццаць



*У першым радзе сядзелі настаўнікі: (злева) Віктар Аляксееў, Юзэф Кендзёра, Юзэф Барышэўскі, Мар'ян Кулеша і Антоні Бутрук.*



*З'ездам кіравалі: (злева) Андрэй Садоўскі, Міраслаў Галэмбёўскі і Здзіслаў Верпахоўскі.*

гадоў таму назад, у чэрвені 1970 года, на заканчэнне дзейнасці школы.

Дзяржаўны педагагічны ліцэй у Бельску-Падляшскім існаваў у 1950—1970 гадах і рыхтаваў настаўнікаў для пачатковых школ. На працягу дваццаці гадоў кіраваў ім нязменна Мікалай Канашынскі, чалавек вельмі заслужаны для асветы ў нашым рэгіёне, дасканалы педагог і арганізатар. Ліцэй закончыла каля тысячы настаўнікаў, якія ў большасці пайшлі працаваць у вясковыя школы ў паўднёва-ўсходняй часткі Беластоцкага ваяводства. Палавіна вучняў ліцэя (з класаў „Б") атрымала падрыхтоўку да навучання беларускай мовы, а шматгадовай настаўніцай роднай мовы была Лідзія Гайдук.

III з'езд адбыўся 23 і 24 чэрвеня г.г. у будынку ліцэя, дзе зараз знаходзіцца прафесіянальная школа. Прыехала каля 200 чалавек. Былі таксама і настаўнікі.

У гімнастычную залу выпускнікоў і настаўнікаў паклікаў стары школьны званок. Пад апладысменты ўсіх сабраных званіў пан Юзэф, тадышні возьны.

Урачысты сход прайшоў без лішняй пампезнасці, але за тое ў сардэчнай, сяброўскай атмасферы. Дырэктар прафесіянальнай школы Міраслаў Галэмбёўскі (матура ў 1966 г.) прыпомніў гісторыю ліцэя і постаць яе дырэктара Мікалая Канашынскага, расказаў пра школу, якой зараз кіруе. Дацэнт Андрэй Садоўскі (матура 1963), дырэктар Інстытута грамадскіх навук Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку прачытаў даклад на тэму „Роля традыцыі ў жыцці чалавека", а інспектар асветы і выхавання ў Сямяцічах Здзіслаў Верпахоўскі (матура 1964) дасціпна прыпомніў эпізоды з вучнёўскага жыцця і размаляваў постаці паасобных настаўнікаў.

Афіцыйная сустрэча закончылася канцэртам дзіцячых калектываў з бельскіх пачатковых школ. Сваё ўмельства па-

**ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАЗІМІРА СВАЯКА**

# Польска — беластоцкі перыяд

**(Паводле дзённіка „Дзея маёй мыслі, сэрца і волі")**

**— 3 —**

**X. На другім вікарыяце — у блудным коле.**
*(Карыцін. 1916—1917).*

*Клюшчаны. 2.XI.1916.* Бывай здарова, родная старонка! Глыбокая, моцная сувязь злучыла мяне з табой. Тут я нашоў сілу да жыцця, тут пазнаў ясныя хвіліны супакою; тут нашоў новыя наметы працы хаўруснай, тут спазнаў, як сумна жывецца гаротнаму селяніну ў цемры, грэху і блудзе забітасці... Мой родны куточак! Будзь здароў! Дасць Бог увідзімся. А калі ў чужыне зімнай застуджу я свае сілы жыццёвыя, ты прымі мяне ізноў, каб нашоў я ў табе крыху патолі... Бывайце заўсёды дужы і здаровы вы ўсе, каго сэрцы біліся ў такт з маім! Капайце ў цвёрдай грудзе сабе дарогу на прыволле і не забывайце, што мэта наша горная: вясёла ідзіце за светлай зарніцай Праўды: „з народам для Бога".

Другі мой вікарыят па Камаях. У Вільні быў колькі гадзін праездам. У колах польскіх — салідарнасць з Варшаваю. Апавешчана „Каралеўства Польскае" незалежным... Якія мы нешчасліўцы, што ня можам падобна як палякі ўзяць лёс свой у свае рукі!

У парафіі Карыцін большасць беларусаў, гавораць чуць ня ўсе па-беларуску. Гутарка мала розніцца і ад нашай надвялейскай. Ідэя маладой Беларусі тутака нязнана: цікаўна, што тутэйшыя „шкаце" ставяць сябе куды вышэй ад суседніх мазуроў за Беразовай. Беларусы ж з-пад Янава і Карыціна кажуць, што яны нешта лепшае, як запушчанскія „шкаце". Польшча тут палітыку можа вясці ўдачна на сваю карысць, бо: каталік усё роўна, што і паляк...

* * *

З трывогай бяруся да кіраўніцтва цэлай грамады дэвоткаў. Здароўя мала, а работы шмат. *У такой сферы смешна было б падымаць думку аб Беларусі.* Калі знайду якую інтэлігентную душу, пастараюся пазнаёміць яе са справай, каторая ляжыць на сэрцы мне. Веру, што: „Жыве Беларусь!". *Работа мая тымчасам чыста касцельная і культурная.* Мо' вазьмуся за хор, бо страшэнна запушчаны. А тымчасам: „Бог памож!".

*25.XII.1916.* Божа, Божа! Так, здаецца, заплакаў бы ціха і балесна, каб аж страпянуліся ўсе струны душы: можа б гэта разагнала тую журбу, што з'ядае ізноў мяне. Неадлучна ты ад мяне, ліхая мая сумнасць, бо і я сам сабе нейкую трагедыю строю: складаецца яна мо' сама, а мо' і я творца яе, а канчатак яе будзе загубай маёй, хоць нясуцэльнай... Я не здаволен з самога сябе. Я кожды шаг свой пачынаю ставіць бяз тэй пэўнасці, каторую дае сіла з Бога: з пакоры і малітвы. Штораз мне сумней, а нямаш душы роднай: я слабы і ня маю каму спаведаць „простую" душу маю...

*2.II.1917.* Сумую як заўсёды. Прылучылася слабасць з сільнае застуды. Не магу ні гаварыць наголас, ні пяяць. А работы шмат.

Праца над самым сабой мае многа разбіцця — што выводзе мяне ўжо няраз з роўнасці духоўнай. Баюся, каб не расстроіцца. Як тут удзяржаць і разбудзіць жыццё глыбейшае ў другіх, калі сам павольна на мель асядаю...

Аб'язджаю крыху парафію з калядой: слёзы, больш нішто. Усмеху рэдка спаткаць. Людцы прыбіты нядоляй вайны — а шмат прымірае з голаду.

*20.II.* ... Рэдка спаткаць душу з верай жывой, што відзіць ясна тайніцы быту людскога, бо прывыкла мысль затапляць у святле Божай развагі. Вось адзін прыклад. Дзяўчо на ложу смерці, у сухотах. Вочы гараць ня толькі полымем з палу: відаць у іх нейкі праблеск засвету і спакой з пэўнасці жыцця вечнага. „Мне не патрэба лекаў ніякіх людскіх, чакала толькі Лекара Боскага. Усё роўна мне жыць, ці памерці, нават большая ахвота да смерці, бо ад жыцця тутэйшага нічога не спадзяюся. Умру ахвотна, баюся толькі, ці Хрыстос прыйме мяне грэшніцу".

*13.III.* Улез я ў блуднае кола... Запяяў я „тутэйшым" колькі шчырых песняў беларускіх, сказаў пару казкаў, задэкламаваў „Званара" і даў прачытаць „Пчалінку". Паказваецца, што тут многа хто мог бы палюбіць Беларусь, а прынамсі яе людовую паэзію — духа глыбейшага яе. Бо відзеў я на гэтых успробах, што „вочкі іх гарэлі". Але тут пачынаецца гэты блудны круг. Сёння мой пробашч пры абедзе знячэўку пытаў: „Хто гэта даў да чытання беларускую кніжыцу, што чытаюць у мястэчку, сабраўшыся вечарам?" Адказаў я, што гэта мая работа. „Няхай ксёндз не заводзіць тутака ніякай новасці. Прашу ня шырыць ані песняў, ані дэкламацыяў беларускіх!" Я даў сваю згоду (!) Чаму?... Пробашч пасля выясніў, што — гэтага вымагае касцельная палітыка з Вільні (!). Гэтага хоча касцельны ўрад. Ёсць бо небяспека, што ад умілавання роднай мовы беларус пачне дамагацца нават рэформы ў касцеле. Хай жыццё плыве сваім карытам. Ня трэба будзіць духа самабытнасці, бо гэта тымчасам небяспечна для еднасці Касцёла... Што тут справядліва, а што не?... Пакінь!... Пакінь, браце, свае думкі! Ты любіш Беларусь! Міласць твая нешчаслівая. Крыйся ты з ёю. Бойся яе аказаць, бо гэта можа даць урон для нейкай палітыкі, ведзенай у імя праўды (!). Я мусіць зблудзіў. Што ж я зраблю, калі люблю так душу беларуса. А віджу яе і пазнаю ў іншым шмат святле, чым другія. Я мушу пакінуць тое, што ўелася ўжо ў маё сэрца!

Ну, буду біцца цяпер з... сваімі думкамі. Мо' беларуская муза ізноў будзе са мной. Зачну

# Прыход у Боцьках

**(Заканчэнне. Пачатак ў папярэднім нумары.)**

З пазнейшых дакументаў захаваліся метрыкальныя кнігі: кніга памершых ад 1758 г., народжаных — ад 1772 г. і шлюбаў — ад 1778 г. З'яўляюцца яны каштоўнай крыніцай ведаў з галіны дэмаграфіі, сацыялогіі, грамадскіх і рэлігійных адносін гэтага падляшскага мястэчка.

У 1800 годзе Боцькі — шляхецкае мястэчка — налічвалі 12 вуліц і пражывала ў іх 1513 чалавек, у тым ліку 666 яўрэяў. Пад канец XVIII ст., калі Тэрэса, дачка Юзэфа Сапегі і Кацярыны Браніцкай, выйшла паўторна замуж за Яахіма Патоцкага, Боцькі трапляюць ва ўладанне Патоцкіх і застаюцца там да 60-ых гадоў XIX стагоддзя.

Тагачасны ўладальнік граф Ян Патоцкі ахвяраваў мястэчку ў 1820 годзе мураваную царкву, якая датрывала да сённяшняга дня. Яе пабудавалі на пляцы, дзе ў пачатку XVIII ст. па-суседску знаходзіўся касцёл.

У 1839 г. адбылося ўз'яднанне уніятаў з Праваслаўнай Царквою. У Боцькаўскім прыходзе ў 1847 г. было 859 мужчын, 926 жанчын і 18 духоўных асоб (10 мужчын і 8 жанчын) праваслаўнага веравызнання (разам 1803 чалавекі). У 1856 г. царква ўзбагацілася іконай св. Антонія Пячэрскага. У царкве знаходзілася асабліва шанаваная ікона св. Мікалая (яна была перанесена са згарэлай царквы ў 1824 годзе), а таксама іконы Успення ПДМ і св. Яна Хрысціцеля. Па ініцыятыве тадышняга настаяцеля а. Фелікса Маркевіча ў Боцьках было ўстаноўлена 13 чэрвеня свята ў гонар св. Антонія Пячэрскага, якое прыпадала 10 ліпеня.

У 1863 г. пачаўся рамонт царквы за суму 2 тысяч рублёў і былі зроблены захады пабудаваць новы іканастас (датрываў ён да II сусветнай вайны). Пасля 1863 года царква ўзбагацілася напрастольнай, літургічным начыннем і кнігамі для набажэнстваў.



*Іканастас царквы ў Боцьках (даваенны перыяд).*



*Званіца ў Боцьках.*

У 60-ых гадах XIX стагоддзя ў Боцьках было 1438 жыхароў, у тым ліку 290 праваслаўных, 405 католікаў і 743 яўрэі. У мястэчку было 290 дамоў, а ўладальніцай Боцькаў стала Яанна Дэфлеры.

У 1872 г. у прыхадской царкве былі адноўлены месныя іконы — Спаса і Божай Маці — за суму 130 рублёў, а ў наступным годзе была пастаўлена новая могільнікавая царква ў вёсцы Кнарыды.

Адноўленая царква ў Боцьках была высвечана 25 сакавіка 1874 г., а царкоўны апякун і члены апякунства былі ўзнагароджаны архіпастырскім благаславеннем.

На падставе перапісу з 1875 г. у склад Боцькаўскага прыхода Драгічынскага благачыння Літоўска-віленскай епархіі ўваходзілі: мястэчка Боцькі і вёскі Дубна, Нурэц, Шашылы, Кнарыды, Старое Сяло, Бадакі, Гаўрылкі, Лясная дача Мытычка, Скалімова, Хранібор і Якубова. У 1878 г. у прыходзе было 1696 вернікаў. У самім мястэчку было тады 1900 жыхароў, у тым ліку 1262 асобы майсеевага веравызнання. У 1879 г. праваслаўны прыход складаўся з 1583 вернікаў, а ў 1891 г. — 2004, якія жылі ў 250 дамах. У канцы XIX ст. ва ўсім прыходзе, да якога далучылі вёску Дзяціннае, было 2141 чалавек. Прыхадскія будынкі былі старыя. Настаяцель і псаломшчык атрымоўвалі 495 рублёў у месяц і належныя працэнты ад 75 рублёў, якія запісаў царкве ў завяшчанні памёршы а. Юзафат Тымінскі. За прыходам лічылася 37,48 дзесяціны царкоўнай зямлі, у тым ліку 1,6 дз. сядзібы, 27,82 дз. ворнай, 3,62 дз. сенажацяў, 4,30 дз. непрыдатнай зямлі, 1 дз. саду і 4 дз. сенажаці, перададзенай пасля 1863 г. ва ўладанне царквы з маёмасці кляштара рэфарматаў.

У 80-ых гадах XIX ст. на тэрыторыі прыхода былі акдрыты школы граматы ў Кнарыдах (25 вучняў) і Шашылах (26 вучняў). Гэтыя школы не мелі свайго пастаяннага памяшкання і называліся „перадзвіжнымі". Пад канец XIX ст. царкоўныя школы былі ў вёсках Бадакі, Дубна, Кнарыды, Старое Сяло, Альшэва, Якубова. Вучылася ў іх агулам 102 хлопчыкаў і 31 дзяўчынка. У Боцьках існавала народнае вучылішча.



*Могільнікавая царква ў Кнарыдах*

Пасля стварэння Гродзенскай епархіі (1901 г.) Боцькаўскі прыход увайшоў у яе склад, застаючыся далей у Драгічынскім благачынні аж да I сусветнай вайны. На падставе дадзеных аб навастворанай епархіі з 1905 г. у Боцькаўскім прыходзе было 2258 вернікаў, якія пражывалі ў 13 мясцовасцях; працавалі 3 царкоўна-прыхадскія школы (91 вучань) і 4 школы граматы (таксама 91 вучань); царкоўнай зямлі было 38 дзесяцінаў; зарплата духавенства — 509 рублёў; прыхадскія будынкі былі ўласнасцю дзяржавы.

У час I сусветнай вайны мураваная царква пацярпела ад пажару. У жніўні 1915 г. насельніцтва эвакуавалася ў глыб Расіі. Вяртанне з бежанства адбывалася ў 1918—1921 гады. У 1920 г. царкву падрыхтавалі да набажэнстваў. Дзяржаўныя ўлады дазволілі адкрыць царкву як філіял праваслаўнага прыхода св. Міхала ў Бельску-Падляшскім, якая належала да Сямяціцкага благачыння. Толькі ў 1929 г. Міністэрства веравызнанняў і публічнай асветы згадзілася перайменаваць філіял у самастойны прыход. У склад прыхода ўваходзілі: мястэчка Боцькі — 108 дамоў, маёнтак Боцькі — 6, вёскі Дубна — 125, Нурэц — 30, Шашылы — 52, Дзяціннае — 10, Кнарыды — 53, маёнтак Кнарыды — 10, Старое Сяло — 41, а таксама былы Андрыянкаўскі прыход з вёскамі Андрыянкі — 63 дамы. маёнтак Андрыянкі — 4, Жалоцькі — 8, Сольнікі і Солец — 7, маёнтак Вандалін — 1. Разам у прыходзе было 518 дамоў і 2315 чалавек. У мястэчку Боцькі ў 1931 г. пражывала 2326 чалавек, у тым ліку 1158 католікаў, 421 праваслаўных і 763 яўрэяў.

У верасні 1937 г. царкву ў Боцьках наведаў епіскап гродзенскі і наваградскі Сава (Саветаў). Царкоўны апякун сумесна з жыхарамі вёскі Кнарыды, а таксама прыхаджане Анна Сцепанюк, Аляксандра Мялешка і Анастасія Казлюк былі ўзнагароджаны пахвальнымі граматамі.

У час II сусветнай вайны, у 1941 г., царква зноў згарэла. Асталіся абсмаленыя і палопаныя сцены. Згарэлі таксама гаспадарчыя будынкі і дом псаломшчыка, астаўся толькі прыхадскі дом, збудаваны ў 1905 г. Дзякуючы самаахвярнасці прыхаджан царкву накрылі і высвяцілі ў 1943 г.

Атмасфера пасляваеннага перыяду не спрыяла стабілізацыі жыцця ў прыходзе. Многія з вернікаў, баючыся за сваё жыццё, вырашылі пераехаць у БССР. Аднаўленне царквы зацягвалася. У 1951 г. да Боцькаў прыязджае чарговы свяшчэннік, а. Уладзімір Анціпаровіч, а праз год прыход наведвае мітрапаліт Макарый. Гэты факт мабілізуе прыхаджан працягваць рамонт царквы. Фінансавыя сродкі здабываюцца рознымі спосабамі. Царкоўны і дзіцячы хоры ў час Раждзжаства Хрыстова калядуюць па дамах вернікаў і збіраюць грошы. Царква ўзбагацілася іконай св. Антонія Пячэрскага. Царкоўныя ўлады загадалі ў 1954 г. правесці збор грошай на патрэбы царквы ў Боцьках. Дзякуючы гэтаму можна было даканчыць рамонт і ўстанавіць бочны алтар. 25 верасня 1955 г. царкву пасвяціў мітрапаліт Макарый.

Зараз шматгадовым настаяцелем з'яўляецца а. Язэп Вайцюк. Ужо пры ім 11 верасня 1972 г. былі пасвечаны новыя могілкі і капліца ў вёсцы Дубна. Пабудаваны быў таксама дом псаломшчыка ў Боцьках. 27—28 жніўня 1975 г. прыхадскую царкву ў Боцьках і філіяльную ў Андрыянках наведаў мітрапаліт Васілій. З гэтай нагоды архіпастырскімі ўзнагародамі былі адзначаны ў Андрыянках — І. Каптэвіч, І. Ніканчук, О. Каптэвіч і М. Ніканчук, а ў Боцьках — П. Іванюк, І. Сакалоўскі, М. Галімскі і царкоўны хор.

Значнай інвестыцыяй была пабудова новага драўлянага, на высокім падмурку, прыхадскога дома. Праведзены былі таксама рамонты цэркваў, якіх у прыходзе некалькі. Апрача прыхадской у Боцьках, адрамантавана была філіяльная царква ў Андрыянках і могільнікавая ў Кнарыдах і ачышчаны могілкі.

ў Андрыянках і могільнікавая ў Боцьках сведчыць аб жыццяздольнасці і самаадданасці мясцовай праваслаўнай грамадскасці.

**Р.С.**



*Кнарыды, крынічка на сенажаці.*

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Іван Грамовіч

## ЦІШКА

Кот Цішка жыве ў дзеда і бабы ў вёсцы, куды ўнук з бацькам прыехаў у госці.

Цішка зажмурыўся, падгарнуў пад сябе лапы і ляжыць на прыгрэтым сонцам падаконніку.

— Будзем ехаць дадому, — кажа сын бацьку, — возьмем Цішку з сабою.

— Ён старэча, — адказвае бацька. — Куды яго? Вочы слабыя.

— А ты яму акуляры купі.

— Як жа ён будзе лавіць мышэй у акулярах?

— Чаму?

— Кінецца за мышшу і разаб'е.

Сын задумаўся:

— А ў нас, у горадзе, і мышэй няма.

— То навошта яго браць? Няхай Цішка дзеду і бабе памагае.

— Без акуляраў? — дзівіцца ўнук. — Дзядуля, а як вам Цішка памагае?

— Ён, як і мы з бабай, ужо на пенсіі, — жартуе дзед. — Але калі што заварушыцца пад венікам у качарэжніку, дык я яму свае з рагавымі аглабелькамі пазычаю...

## ЧАГО КРЫЧЫЦЕ?

У нядзелю ўсе дома. Паселі абедаць. Бацька, дзеці — усе наўкол стала. А маці заканчвае завіхацца ля газавай пліты і паведамляе, што засмажыла курыцу з салодкай моркаўкай. Чуваць прыемны пах і шыпенне.

— Мне ножку! — заказвае Юля.

— І мне ножку! — крычыць Галя.

— І мне. Мне мама заўсёды дае ножку! — крычыць Толя.

Дзяніс, самы малодшы, сядзіць спакойна і разважае, як дарослы:

— Ну, чаго вы крычыце! Хіба ж курыца саракаsuccessfully?...



**КАНІКУЛЫ З КАТОМ**

Марцін Яганаў, Даротка Лісіцкая і Агнешка Мышкевіч з Белавежы праводзяць канікулы на ўласным падворку. Разнастайнасць у іх жыццё ўнёс бяздомны коцік, які прыклеіўся да дзяцей. Яны прынялі яго ў сваю кампанію, назвалі Мілюсікам. Апякуюцца ім супольна, кормяць яго, гуляюць з ім.

Задаволены дзеці, задаволены і кот. Так і павінна быць.

А што чуваць на іншых падворках? **Фота Пятра Байко**




**ЗАКЛЯТЫ СКАРБ**

Калі тое было? А хто ж яго згадае! Мо яшчэ ў тыя незапомныя часы, калі рака Сакалда тут плыла тым пакручастым старым рэчышчам, што цяпер Зэглерыхай завуць.

Каля лясной рачулкі Ланкі, усё ў адным месцы, кожны год позній восенню што ні вечар агонь нейкі людзям з'яўляўся. Выкаціцца недзе з гушчавіны на палянку пад старыя дубы і круціцца. То падбяжыць, то падскочыць і аж зіхаціць рознымі колерамі.

Старыя людзі, угледзеўшы гэтае дзіва, меркавалі:

— Няйнакш, у закапаным скарбе золата пераліваецца. Багата яго, пэўна, там, калі агонь такі вялікі ды іскрысты. — Падумаўшы, перасцерагалі маладых: — Няпраўдай гэты скарб закладзены і таму смерці патрабуе.

Доўгі час яўляўся той агонь, але ніхто з тутэйшых не наважыўся шукаць ды адкопваць той скарб.

Аднойчы валэндаўся тут з вёскі да вёскі нейкі чужынец з сабакам. Не столькі людзі валацугам дзівавáліся, колькі тым сабакам. Надта ж ён верны быў свайму гаспадару: даволі крывым вокам на валацугу глянуць, як сабака з зубамі на цябе кідаўся; з найгоршай лясной крэкаці яго выводзіў, нікога да яго не падпускаў, калі той, бывала, п'яны пад плотам валяўся. Пачуўшы згадку пра скарб, пайшоў прыблуда вечарам на Ланку, падпільнаваў агеньчык і да вялікага скарбу дакапаўся.

Адкрывае прыблуда гаршчок, а там паверх золата цыдулка ляжыць: „Мяне ўзяўшы, галавой наложыш“. Ён, доўга не думаючы, злапаў свайго сабаку, адсек яму галаву ды паклаў у гаршчок на месца золата, што

**(Працяг на стар. 10)**




*Інструментальна-вакальны калектыў „Жучкі“ з Бельска.* *Фота Я. Чэрнякевіч.*

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Іван Крупко

### Выхвалякі

На градках бабкі Хвядоры
Падрасталі памідоры.
Пахваляліся яны,
Што вырастуць, як кавуны.

### Чысцёха

Пахваліўся Янку Пеця,
Што цярпець не можа смецця.
— Я як насмячу з гару,
Адразу маме гавару.

### Вясёлка

Адгрымеў, адвуркатаў
Над сялом злосны гром.
І над рэчкаю дугу
Ён павесіў набягу.
— Мамка, — запытаў Міколка, —
Як завуць дугу?
— Вясёлка.

### Калыханка

Ходзіць сон па двары
Ў цёмнашэрым каптуры.
Ціха кажа: баю-бай,
Заплюшч вочкі, засынай.
Кветачкі ў лузе спяць,
Пчолкі спяць у вуллі,
Ты адзін не хочаш спаць,
Люлі, сынку, люлі.
Месячык за хмаркай спіць,
Вецер спіць у голлі,
Сон прыемны коцік сніць,
Люлі, сынку, люлі.
Спіць вавёрка ў дупле,
Спіць жаўрук у полі,
Прытуліся да мяне,
Любы мой саколік.
Ды заплюшч жа вочы,
Спаць патрэбна ноччу.

## ЗАГАДКІ

Без сякеры, без пілы
Рэжуць папалам ствалы.
*(Бабры)*

Скрынку татка наш прывёз,
А ў ёй жыве мароз.
*(Халадзільнік)*

Часткі свету добра знае.
Дом знайсці дапамагае.
Каб у лесе не блукаць,
Прапануе сябраваць.
*(Компас)*

Многа колераў сабрала,
Над ракой падковай стала.
*(Вясёлка)*

Ходзіць дзіва па пустыні,
Два мяшкі носіць на спіне.
*(Вярблюд)*

Узімку са мною ў школе бывае,
А ўлетку ад школы адпачывае.
*(Партфель)*

Ці ежу шукаю, ці ў госці паўзу,
Дом свой заўсёды з сабою нясу.
*(Слімак)*

## ТАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

### БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР

**(У 500-годдзе з дня нараджэння)**

— 3 —

Францішка ўражвалі неверагодныя легенды пра гэтага князя Чарадзея. Ён нібыта мог перакінуцца ў ваўка. І тады бегае ўначы па дарогах, а ўранні раптам узнімаецца туманам і пратворыцца ў воблака, — невядомая сіла пераносіла яго з месца на месца. Людзі думаюць, што ён у Полацку, а ён ужо апынуўся ў Кіеве. Толькі яго апазнаюць там, а ён пахаджвае ў Ноўгарадзе.

— Не можа гэтага быць, — не вытрымаў аднойчы Францішак. — Што ён — нейкі незвычайны чалавек быў, ці што?...

— А пра звычайных, унуча, легендаў не расказваюць, — хітравата ўсміхнуўся дзед. І невядома было, ці ён верыў сам, што князь быў ваўкалакам, ці не...

Гісторыя на вачах пераходзіла ў сённяшні дзень. Знаёмы герб, які неяк бачыў Францішак на пячатцы колішняга полацкага князя Глеба Гедымінавіча — коннік з мячом на кані, — быў цяпер гербам Вялікага княства Літоўскага.

Апошнія стагоддзі палачанам і іх суседзям — лівам, латгалам — даваўся весці няспынные змаганне з нямецкімі рыцарамі, якія залілі крывёю землі Прыбалтыкі, захапілі вусце Заходняй Дзвіны, узвялі крэпасць Рыгу, перагарадзіўшы полацкім купцам усякі доступ да Балтыйскага мора. Праўда, разбітыя не без удзелу палачан на Чудскім возеры, а пасля пад Грунвальдам, яны цяпер не паводзілі сябе так ваяўніча і нахабна, але ўсё роўна чынілі розныя перашкоды.

Францішкаў дзед і цяпер не мог супакоіцца, калі расказваў унуку, як аднаго разу рыжскія ўлады забралі коней у яго і ў іншых купцоў і палачане мусілі вяртацца дадому пешкі. Але тады і Полацк тут жа аб'явіў, што канфіскуе ўсе тавары нямецкіх купцоў...

Здаўна павялося: як толькі рыжане не прапускалі палачан да мора, палачане адразу ж не давалі нямецкім купцам праплываць далей Полацка, нават у бліжні Віцебск, не кажучы ўжо пра Вялікае княства Маскоўскае. Усе тавары цяпер рыжскія купцы мусілі збываць у Полацку.

Штогод тут адбываліся тры вялікія кірмашы. Кожны цягнуўся па два тыдні. Асабліва вялікі кірмаш быў пасля каляд на вадохрышча.

У горад з'язджаюцца з розных краін купцы. Іх доўгія абозы — у 20—40 саней кожны — вязуць сюды самы розны найлепшы тавар.

Абозы прывозілі ў Полацк безліч усякай навіны: розных моў, пахаў, колераў... Чужыя, далёкія землі тады таямніча клікалі Францішка да сябе. Яму ўспаміналася, як летась з бацькам плыў у Рыгу і там начаваў у знаёмых палачан, якіх шмат жыло ў прадмесці далёкага горада. Яны нават засялілі там цэлую слабаду.

На вуліцах Рыгі панавала нямецкая мова — мова каланізатараў. І толькі зрэдзь прабіваліся словы ліваў — карэннага народа, што жыў тут.

І як неспадзеўкі было Францішку раптам з вуснаў ліваў ці латгалаў (продкаў сённяшніх латышоў) учуць тут слова „купец", „торг", „бязмен"... Аказваецца, разам з воскам, футрамі, ільном плылі ў заграніччa і нашы родныя словы...

**(Працяг будзе)**

**(З кнігі А. Клышкі „Францыск Скарына")**

Станіслаў Шушкевіч

### ПРАКАЛОЎ КАМАРЫК НОЖКУ

Пракалоў камарык ножку
Аб паломаную дошку.
Нясе маці сына ў хату,
Дастае бінты і вату.
— Куды ж цябе ліха несла?
Ну, сядай, сынок, у крэсла!
Будзем ножку бінтаваць,
Рану ёдам заліваць.
Слёзы коцяцца па твары.
Плача, войкае камарык,
Аж рагочуць каля хаты,
Аж гудуць камараняты:
— Вытры слёзы, памаўчы,
Больш па дошках не скачы!
Выцер носік, выцер тварык,
Заікаецца камарык:
— Вось як ножку падлячу,
Насміхацца адвучу.

### ЗАКЛЯТЫ СКАРБ

**(Працяг са стар. 9)**

сабе ў торбу высыпаў. Сам жа, ног пад сабой не чуючы ад радасці, паімчаўся ў карчму, што тады за рэчкаю, на скраю вёскі Сакалды стаяла. Бег жа не дарогаю, а нацянькі каля Здраёў на Зэглерыху, не зважаючы на багну ды дрыгву. Відаць, яму надта спешна да кватэркі гарэлкі было. Не заўважыў нават, як у адкрытае жарало ўваліўся. Рвануўся ў адзін бок, рвануўся ў другі, а золата ўсё глыбей у твань цягне. Спрабаваў скінуць торбу са скарбам, але багна ўжо па шыю засмактала. Закрычаў ён дзікім голасам: „Ратуйце!", ды замест крыку толькі бурбалкі з жыжы выскачылі і шапка-малахай усплыла.

Толькі праз нейкі час наткнуліся людзі на косці яго засечанага сабакі і картку пад дубам на Ланцы ды згніўшую шапку на жаролах каля Здраёў.

Потым дрыгву асушылі, зааралі ды засеялі травою. Цяпер улетку ды на восень стракацяць там касілкі, а агонь зусім не паказваецца.

**(З кніжкі І. Гурскага „Бяздоннае багацце")**

## Вершы Віктара Шведа

### КОЛЬКУ СПРАБАВАЎ САБАКА

Сабака малога
Палізаў па шчочках.
Матуля з трывогай
Спытала сыночка:

— Ці цябе ён, Колька,
Не ўкусіў зубамі?
— Спрабаваў ён толькі
Ці я смачны, мама.

### ШТО БОЛЬШ ПЯЧЭ — МАРОЗ ЦІ ПЕЧ?

— Калее татка наш на рынку,
Мароз жа на дворы пячэ.
— Пабегае ўкол воза, сынку,
Тады мароз ліхі ўцячэ.

Вось нам тут гора, хоць тапіся,
Не чую ўжо здранцвелых плеч.
Пячэ, дзе толькі дакраніся,
Гарачая страшэнна печ.

### ЧАМУ БУДУЮЦЬ ЛЮДЗІ СТОЛЬ?

У цёплай хаце мноства мух
Вандруе па бялюткай столі.
Размова пачалася дзвюх,
Цікавая шмат, як ніколі.

— Ты, даражэнькая, дазволь
Цябе спытацца пры нагодзе:
— Чаму будуюць людзі столь,
Калі па ёй зусім не ходзяць?

### НЕАХВОТА МЯНЯЦЬ БОТЫ

Прыйшоў у школу невялікі,
Рассеяны надзвычай Клім,
У адным чорным чаравіку,
Ды ў карычневым другім.

— Ты боты памяняць вярніся, —
Настаўнік вучню даў загад.
— Дома напэўна засталіся
Боты такія ж акурат.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 220060, г. Мінск, вул. 2-ая Землямерная, 23, кв. 1. Каця Трусевіч, 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск, вул. Р. Люксембург, 122, кв. 5. Іра Малайчук, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск, вул. Каржа, 10, кв. 3. Іра Ермаловіч, 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск, вул. Каржа, 6, кв. 27. Віка Усцінава, 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск, вул. Р. Люксембург, 197. кв. 14. Дзіна Дамброўская, 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск. пр. Жукава, 25, к. 1, кв. 18. Таня Блінцова, 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск, вул. Волаха, 53 а, кв. 62. Оля Пыршай, 5 клас.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

— Ведаеш, Каця, наша бабуля найбольшая чараўніца.
— Чаму?
— Яна так падзяліла нам торт, што ўсе былі перакананы, што атрымалі найбольшыя кавалкі.

* * *

Сланы з мышамі гулялі ў футбол.
— Прабачце нам, — кажуць сланы, — калі мы занадта часта вам на хвасты наступалі.
— Нічога, — далікатнічаюць мышы, — затое мы вас часцей фаўлявалі.

* * *

— Міша, твае сябры наракаюць, што ты вельмі скупы, ніколі ні з кім не падзелішся. Чаму ж гэта так? З намі, мамай і татам, ты заўсёды дзелішся.
— Так, мама. Бо вы ніколі нічога не хачаце браць, а яны заўсёды возьмуць.

## -А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А-

Назаві гэтых звяроў. Хоць усе яны адрозніваюцца паміж сабою, але іх спалучаюць сямей ныя адносіны. Спалучы партрэты гэтых жывёл лініямі, але так, каб лініі не крыжаваліся.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

## ТУМАНЫ

*Верш С. Сокалава-Воюша*
*Музыка Я. Магаліфа*

Туманы, туманы,
Нібы белыя коні,
Мо адкуль з Панямоння,
Ці адкуль з-за Дзвіны,
Прымчалі яны,
І ляглі над бяздоннем
Нарачанскай далоні
Туманы, туманы...

**Прыпеў:** Туманы, туманы, туманы,
Нібы белыя, белыя коні,
Мо адкуль з Панямоння,
Ці адкуль з-за Дзвіны.
Туманы, туманы...

Клаўся вечар на дол,
Дзе бухматы сасоннік,
Дзе вясёлкавых гоняў
Валашковы падол.
Дзе бялелі наўкол
Незвычайныя коні,
У белапеннай кароне
Клаўся вечар на дол.

**Прыпеў:** Клаўся вечар на дол,
Дзе бухматы, бухматы сасоннік,
Дзе вясёлкавых гоняў
Валашковы падол.
Клаўся вечар на дол.

Туманы, туманы,
Нібы белыя коні...
Толькі ранне зазвоніць,
Паімчаць табуны.
І галінка сасны
Памахае спрасоння.
Развітанне: да сёння,
Туманы, туманы.

**Прыпеў:** Туманы, туманы, туманы,
Нібы белыя, белыя коні,
Толькі ранне зазвоніць,
Паімчаць табуны.
Туманы, туманы...

*) Для апошняга куплета

# НІЎКА

## СЭРВІС

— Ваш пашпарт, — сказала касірка, калі Насрадзіновіч з поўным падносам у прадчуванні смачнага абеду наблізіўся да касы.

Насрадзіновіч пабег у пашпартны стол прапісвацца.

— З мясцовай прапіскай не пасяляем, — сказала адміністратар гасцініцы, калі ў Насрадзіновіча настала праблема начлегу.

Насрадзіновіч скінуў у вестыбюлі паліто і шапку. Расштурхаў хлопцаў і дзяўчат, якія трэслі дзверы рэстарана. Упэўнена пастукаў манеткай у шкло, швейцар прыадчыніў. Насрадзіновіч кінуў: „Заказана“, апусціў манету ў шырокую далонь швейцара і прайшоў у залу.

Там Насрадзіновіч паснедаў, паабедаў і павячэраў разам. Не адмовіўся прапусціць і кілішак — другі, балазе пра пашпарт, а тым больш прапіску, ніхто не пытаў... А пра адпачынак паклапаціліся работнікі службы спецабслугоўвання — гэту службу называюць яшчэ выцвярэзнікам. Насрадзіновіч выйшаў на вуліцу назаўтра адпачыўшы, бадзёры. Якія праблемы?...

**Васіль Феранц**

## КУТОК АБЫВАЦЕЛЯ

— У Вас вельмі шмат пластовак з класічнай музыкай. Вы, мабыць, вялікі аматар?

— Ну што Вы. Проста мае жонка і цешча яе цярпець не могуць.

**В.Д.**

УДАРИМ ГОРОХОМ КРИТИКИ О СТЕНУ БЮРОКРАТИЗМА!

# ПОЗІРК

№ 2 ТРАВЕНЬ 1990

Незалежнае публіцыстычна-гумарыстычнае выданьне

## НОВЫЯ ВЫДАННІ

Дзякуючы Юрасю Сцяпанаву з Віцебска ў нашую рэдакцыю трапіў другі нумар незалежнага публіцыстычна-гумарыстычнага выдання „Позірк“. Выдаецца яно ў Мінску ксераксnай тэхнікай, на рускай і беларускай мовах. Галоўны рэдактар — Андрусь Дылюк. Як заяўляе рэдакцыя, „Позірк“ — гэта „незалежная газета, ворганам БНФ ці якойсьці партыі не з'яўляецца“. Нашым чытачам прапануем тры тэксты з гэтага часопіса („Пра маё дзяпінства“, „Афарызмы...“ і „Куток абывацеля“).

## ПРА МАЁ ДЗЯЦІНСТВА

*(Занатоўкі бюракрата)*

§ 1. Згодна даведцы № 769/34 дзяцінства ў мяне было.

§ 2. Згодна пастанове № 0523/67-С у час дзяцінства я быў дзіцём.

§ 3. Працэс майго дзяцінства праходзіў непасрэдным чынам у мае дзіцячыя гады.

§ 4. Мае дзіцячыя гады працякалі ў адпаведнасці з актам № 90654 ад 23.04.

§ 5. Да пачатку працэсу дзяцінства я прайшоў працэс нараджэння ў рэкордна кароткі тэрмін з перавыкананнем плану на 126 прац. Мае бацькі зрабілі мяне з зэканомленых матэрыялаў.

§ 6. На жаль я нарадзіўся ў застойныя часы, і працэс нараджэння праходзіў за зачыненымі дзвярыма. Не была забяспечана шырокая галоснасць.

§ 7. У час дзяцінства я выхоўваўся ў духу адданасці партыі, бо партыя пачала перабудову, яна ж і скончыць.

§ 8. ... (Засакрэчана — Рэд.)

§ 9. У працэсе дзяцінства я наведваў школу. Тамака я атрымаў „абразаванне“, і зараз умею добра абразіць чалавека.

§ 10. Шчыра кажучы, былі ў мяне і некаторыя асобныя памылкі, ад якіх я рашуча пазбавіўся. Нарадзіўся я з белымі і чорнымі радзімымі плямамі, якія ад усіх хаваў. Зараз я іх перафарбаваў у чырвоны колер і ўсім паказваю іх.

## АФАРЫЗМЫ — ЭЙФАРЫЗМЫ — АФЕРЫЗМЫ

*Калі праца не воўк — работнік у лес не ўцячэ.*

✻ ✻ ✻

*Кліент заўсёды правы, але не заўсёды можа гэта даказаць.*

✻ ✻ ✻

*Памяць — не бяздонная бочка, памяць — гэта рэшата.*

✻ ✻ ✻

*Хацеў скочыць вышэй асабістай галавы ды збіў яе сваім задам.*

✻ ✻ ✻

*Рада жадаючым пахудзець: харчуйцеся выключна ў кааператыўным кафэ.*

**Цюхай-Ліпскі**

**Ніва**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“

ul. Suraska 1

15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty na 1990 r.:

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1990 r. upływa 20 sierpnia 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch“ Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— sierpień — 5.200 zł.
— wrzesień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 971/90